# Адборнае войска знайшло свой канец

**Гішпанскі справаздаўца апісаў Керч.**

Карэспандэнт газэты «Арріба», які на запрашэньне нямецкага вайсковага кіраўніцтва адведаў Керч разам з справаздаўцамі іншых дзяржаваў, піша ў адным кароткім уступе:

«24 мая расейскі ваенны камунікат даносіў аб адступленьні ў поўным парадку на паўвостраве. Што, аднак, разумелася пад гэтым парадкам, мы маглі сьцьвердзіць сваімі ўласнымі вачыма. Зьнішчаныя грузавікі, самалёты, гарматы, танкі і тысячы забітых усеяны па дарозе да гораду Керч. Нязьлічаная маса палонных ідзе па дарозе, а як нам паведамілі, вялікшая часьць іх ужо адтранспартавана. Адборнае войска ў ліку больш 200.000 чалавек знайшло тут свой канец. Нябывала моцныя ўмацаваньні былі тут уладжаны бальшавікамі, але яны ня вытрымалі выпрацаванай да найлепшых падрабязнасьцяў атакі нямецкіх войскаў. Гэта не неспадзяваная перамога, якую Нямеччына тут здабыла, бо саветы на ўсіх адрэзках стаўлялі наймацнейшы супраціў.

# Мы бачылі разбіткі 17 дывізыяў

**Волаты-танкі зламаны як запалкі. Швэйцарскі журналіст перадае свае ўражаньні.**

Надзвычайны карэспандэнт «Журналь дэ Жэнэв», які мог наведаць паўвостраў Керч, падае стуль наглядны абраз вялізарнае перамогі нямецкіх жаўнераў і нямецкае зброі супроць кінутае туды нязьлічанае колькасьці расейскага ваеннага матарыялу.

«На беразе Чорнага мора пануе цяпер мёртвая ціша, пасьля разыграных там некалькі дзён таму назад жорсткіх баёў. Гэта было сапраўднае пекла. Прад намі ляжыць рэштка трох разьбітых у пыл расейскіх арміяў, якія былі зьнішчаны, як быццам ударам маланкі. Аграмадныя танкі-волаты і чорныя штурмавыя машыны разломаны, як запалкі. Надарэмна прабавалі расейцы ўцячы праз мора. Нямецкае лятунства зьнішчыла караблі, пакуль яны дабеглі да берагу.

Паміж Апанасьяй і Іенікале ляжаць разьбіткі 17 расейскіх дывізыяў. Бераг усеяны больш чым 2000 грузавікоў, 200 гарматамі і нязьлічанымі танкамі. Калі расейцы прабавалі выратаваць свой матарыял, іх ахапіла паніка. На даўжыні трох кілямэтраў стаяў адзін грузавік каля другога. У моры знаходзяцца разьбіткі затопленых караблёў. Немцы заўдзячваюць сваю перамогу перавозе й якасьці свайго матарыялу й баёваму духу сваіх войскаў».

# Тры гады ніякіх апонаў для самаходаў

**Нястача гумы й скуры ў ЗША. — Толькі 50% дасюлешняе прадукцыі абутку.**

Як падае «Свэнска Дагблэд», сэнацкая камісія ў Вашынгтоне, якая сочыць за правядзеньнем Рузвэльтаўскай ваеннай праграмы, мусіць сьцьвердзіць, што амэрыканскія шофэры што найменш тры гады мусяць чакаць, каб атрымаць апоны да самаходаў. Гэтым сьцьвярджаецца ў Вашынгтоне яшчэ раз яскравая супярэчнасьць паміж урадовай прапагандай, якая расьпісвае аб фантастычнай прадукцыі, і сапраўдным палажэньнем у заспасабленьні, якое дае для прадкуцыі вельмі абмежаваныя магчымасьці, дзякуючы здэзарганізаваньню. Гэтак, для прыкладу, было абвешчана, што сынтэтычная прадукцыя гумы можа пакрыць ня толькі ўсе ваенныя й цывільныя патрэбы ЗША, але й ангельскія.

Узьнікаючыя насьледкі з дадзенага палажэньня для Англіі яшчэ зусім не прадугледжваюцца. Праз гэта мусіць Англія зносіць заядлыя закіды свайго саюзьніка. Гэтак сэнацкая камісія далей сьцьвердзіла, што ангельскія й гальляндзкія інтэрасанты, якія раней прапушчалі 97% усяе прадукцыі сыравіннае гумы сьвету, пасьля Дзюнкірхэн затрымалі вызначаныя ў ЗША транспарты гумы. Гэта таму, што яны баяліся кантролю цэнаў на гуму з боку Злучаных Штатаў.

У выніку нястачы гумы нехапае ў ЗША і скуры. У апублікаваным у «Нью-Йорк Гэральд Трыбун» справаздачы аб паседжаньні паўночна-амэрыканскага прамысловага аб'еднаньня гаворыцца, што, праўдападобна, з 1-га чэрвеня ўрад ЗША будзе змушаны дзяржаўным парадкам кантраляваць спажыцьцё скуры. Грамадзянства, як у канцы пішацца ў справаздачы з паседжаньня, выйдзе яшчэ добра, калі зможа пастаўляцца ў будучыні толькі палова абутку, прадукаванага ў нармальныя часы. Нястача іншых скураных тавараў тлумачыцца і тым фатам, што па прычыне недастатковага ўвозу гумы шмат вырабляных дасюль з гумы рэчаў для арміі трэба цяпер вырабляць са скуры.

# Бойка каменьнямі ў Каіры

У Каіры ў чацьвер насельніцтва закідала каменьнямі войскі 8 брытанскае арміі, якія ішлі на фронт. Гэты выпадак быў выкліканы тым, што брытанскі танк разьехаў аднаго эгіпціяніна. аДйшло да дэманстрацыяў, якім палажыла канец паліцыя, разганяючы натоўп прыкладамі вінтовак.

# Турэцкая армія зусім падрыхтавана

На паседжаньні турэцкага Нацыянальнага Сабраньня ў Анкары, міністар абароны, гэнэрал Ріца Артункэль перад перагаласаваньнем буджэту на абарону сказаў прамову, у якой зазначыў, што турэцкая армія ў адносінах узбраеньня цалком падрыхтавана да навачаснай вайны. Праца над яе разбудовай праводзіцца і далей. Турэцкая армія гатова выканаць загады Нацыянальнага Сабраньня. Як заявіў міністар, «народ, як у часе барацьбы за незалежнасьць, так і сягоньня дасьць арміі, ўсё, што ёй трэба».

Прэм'ер міністраў др. Сайдан указаў на тое, што урад лічыць сваім галоўным заданьнем — захаваньне цэласьці й незалежнасьці бацькаўшчыны.

# Школы ў Беларусі

У школьніцтве на абшары Беларусі, перададзеным пад кіраўніцтва цывільнай адміністрацыі, у сучасны мамэнт працуе ўжо 12.000 да 13.000 настаўнікаў, якія вучаць каля 400.000 дзяцей у школьным веку.

—0—

# Каір бяз хлеба

Паводле паведамленьняў, надышоўшых праз Левант, горад Каір астаўся цалком бяз хлеба. Эгіпецкая прэса ў найгастрэйшай форме выказвае горыч насельніцтва з прычыны дрэннага заспасабленьня. «Аль Дустур» піша, што міністэрства заспасабленьня выслала сваіх урадоўцаў на вуліцы сталіцы, каб даведацца аб сапраўднай сытуацыі. Паводле далейшых паведамленьняў з Эгіпту, урад падрыхтоўвае эвакуацыю рэштак астаўшагася ў Александрыі цывільнага насельніцтва.

—0—

# 93.000 італьянскіх плугоў для Украіны

Для сельска-гаспадарчага адкрыцьця Украіны на пажытак усяе эўрапэйскае гаспадаркі спрычынілася практычна і Італія. Як паведамляе «Джорнале д'Італія», выслана з Італіі 93.000 плугоў, якія будуць ужыты для інтэнсыфікацыі збажовае прадукцыі.

—*—

# Бомбы на паўдзённа-усходнюю Англію

**Цяжкія шкоды ў горадзе Іорк.**

Ангельскае міністэрства авіяцыі паведамляе, што ўначы на сераду нямецкія самалёты ўляцелі на паўдзённа-ўсходнюю Англію і скінулі бомбы.

Толькі цяпер падана да ведама, што ў часе аднаго з папярэдніх налётаў былі прычынены цяжкія шкоды ў ангельскім горадзе Іорк. Паміж іншым, быў зьнішчаны дом цэхаў з XV сталецьця, які лічыўся аднэй з найпрыгажэйшых гатыцкіх будоваў Англіі. Атрымала пашкоджаньні таксама ня менш слаўная школа Сьв. Пятра, заснованая у XVI сталецьці, а таксама ратуш Іорку. Гэтыя атакі былі прадпрыняты ў мэтах помсты за зьнішчэньне цэнных нямецкіх памяткаў культуры і жыльлёвых цэнтраў.

—*—

# Зьнішчаныя японцамі марскія сілы

Галоўная Японская Імпэратарская Кватэра паведаміла, што ад пачатку вайны да 20 мая японскі марскі флот зьнішчыў усяго 8 варожых баёвых караблёў і 6 пашкодзіў. Апрача гэтага, ён затапіў 6 варожых авіяматак. У гэтым-жа часе японскі флот зьнішчыў 982 варожыя самалёты й 1292 моцна пашкодзіў.

За гэтым зьнішчана 15 варожых крэйсараў і пашкоджана 12, зьнішчана 24 зьнішчальнікі й пашкоджана 11. 3 падводных лодак зьнішчана 50, пашкоджапа 29. Апрача таго зьнішчана многа розных дробных і спэцыяльных караблёў.

Усяго разам зьнішчана 169 варожых караблёў лучнага вадавыціску 934.000 т. 129 караблёў — 485.000 т. вадавыціску — цяжка пашкоджана й 503 дробных караблёў 220.000 т. вадавыціску сканфіскавана.

**Максім Багдановіч.**

## *МАЁВАЯ ПЕСЬНЯ*

**Па-над белым пухам вішняў,**
**Быццам сіні аганёк,**
**Б'ецца, ўецца шпаркі, лёгкі**
**Сінякрылы матылёк.**

**Навакол усё паветра**
**У струнах сонца залатых,**
**Ён дрыжачымі крыламі**
**Звоніць — ледзьве чутна іх.**

**І ліецца хваляй песьня, —**
**Ціхі, ясны гымн вясьне.**
**Ці ня сэрца напявае,**
**Навявае яго мне.**

**Ці ня вецер гэта звонкі**
**У тонкіх зёлках шапаціць,**
**Або мо' сухі, высокі**
**Ля ракі чарот шуміць...**

**Не паняць таго ніколі,**
**Ні разьведаць, ні спазнаць:**
**Не даюць мне думаць зыкі,**
**Што ляцяць, дрыжаць, зьвіняць.**

**Песьня рвецца і ліецца.**
**На раздольны, вольны сьвет.**
**Але хто яе пачуе?—**
**Можа толькі сам паэт.**

**25-га мая 1942 г. мінула 25 гадоў ад дня сьмерці вялікага беларускага песьняра Максіма Багдановіча. У вадным з наступных нумароў будзе зьмешчаны артыкул аднаго беларускага літаратара аб жыцьці і творчасьці паэта.**

# Японскія страты

Затоплена — 2 малыя авіяматкі, 6 зьнішчальнікаў, 1 карабель спэцыяльн... 6 падводных лодак, 5 спэцыяльных падводных лодак, 1 мінаноска й 6 міналоваў.

Пашкоджана 1 міналоў, 4 перабудованыя караблі, 1 лёгкі крэйсар, 3 зьнішчальнікі і 1 адумысловы карабель.

248 японскіх самалётаў не вярнулася назад.

—о—

# Мальта няпрыгодная для ангельскіх бамбардыроўшчыкоў

Лёнданская газэта «Таймс» змушана цяпер прызнаць у артыкуле свайго дыпляматычнага карэспандэнта ваенны посьпех нямецка-італьянскае лятунскае акцыі супроць вастраўное крэпасьці Мальта. Як піша газэта, узьнікшыя там дзякуючы паветраным атакам на лётнішчах шкоды гэтак вялікія, што ангельскія бамбардыроўшчыкі ня могуць ужо больш паслугоўвацца імі. Гэткім чынам, карабельны рух паміж Італіяй і Лівіяй можа адбывацца без якіх-небудзь мацнейшых перашкодаў з боку ангельскага лятунства. Можна сабе ўявіць, якой неспадзяванкай будзе цяпер прызнаньне «Таймсу» для ангельскае грамадзкасьці, калі брытанскія ваенныя справаздаўцы дасюль усё запэўнялі, што нямецка-італьянскія атакі на Мальту былі бяз мілітарных вынікаў.

—о—

*Herausgeber und Druck: Sturmverlag G. m. b. H. Königsberg, Zweigniederlassung Bialystok, Lindenstr. 64, Tel. 437.*